http://navinki.promedia.minsk.by

# НАВІНКІ

ЧОРНЫЯ НАВІНКІ

5 - 15 ліпеня 2001 №8(46) Кошт свабодны




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@czavo.org; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 3.07.2001г., а 23.59. Тыраж 4600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №531

## Як разумЕць

### (з пункту гледжаньня экзыстэнцыялізму)

**...Выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.**

Паводле філязофіі экзыстэнцыялізму, сэнс сапраўднага існаваньня, перадусім духоўнае быцьцё асобы – яе сьвядомасьць. Таму выбары – гэта адказ на пытаньне аб сэнсе быцьця: «Што вам патрэбна болей, дэмакратыя (*быцьцё для іншых*) або анталягічная саматоеснасьць (*быцьцё для-сябе* і *ў-сабе*)». Сапраўдная свабода знаходзіцца па-за мяжой усялякай аб'ектыўнай рэальнасьці на дарэфлексіўным узроўні, дзе адбываюцца перажываньні сваёй занядбанасьці ў космасе. Усё астатняе, уключаючы ўборачную страду, пашырэньне NATO і прыватызацыю «Крыніцы» – другасна. Вярнуцца да аўтэнтычнасьці можна праз абсалютны палітычны канфармізм. А.Камю апісвае такую мадэль на прыкладзе Сызыфа, якога Зэўс запрог пхаць валун у гару. На першы позірк Сызыф – шасьцёрка. На самой справе, поўная пакорлівасьць зьнешнім абставінам дазваляе яму мэнтальна дыстанцыявацца ад навакольных гештальтаў. Яшчэ далей пайшоў біблейскі Абрам, які па загаду Яговы прыносіў у ахвяру сына-першынца Ісака. Бацька з сынам так самаадданa падарваліся выконваць ідыёцкую каманду, што ўпалі ў транс запраста аднавілі страчаны ў несапраўдным жыцьці кантакт з Богам. Такім чынам, усе індывідуалісты-арыстакраты духу павінны аддаць свой голас Лукашэнку. Ягоная неабмежаваная дыктатура дазволіць ім скінуць баласт будзёнасьці і наблізіцца да экзыстэцыяльнага азарэньня.

**...Зьнікненьне Завадзкага, Ганчара, Захаранкі і іншых.**

Экзыстэнцыяльнае азарэньне нельга купіць на рынку «Дынама». Для разьвіцьця экзыстэнцыялістычнае сьвядомасьці на практыцы неабходная псыхалёгія катастрофы, адчуваньне крызысу: няўпэўненасьць у будучыні, страх перад заўтрашнім днём, беспрацоўем, капіталістам, міліцыяй, вайной – вось тыя сацыяльныя і псыхалягічныя карані той філязофіі, якаяператварае звычайныя эмоцыі, перш за ўсё страх, у «онталягічную» аснову чалавечага існаваньня. Прычым чым мацней гуляеш ачком, тым болей шанцаў атрымаць порцыю інтымнасьці. Кіднэпінг Завадзкага, Захаранкі, Ганчара і іншых апазыцыянэраў для іх саміх – унікальны шанец стаць асобамі. Усё жыцьцё яны існавалі ў экзыстэнцыяльнай нудзе, падмяняючы сапраўдную экзыстэнцыю спажывецка-палітычнай практыкай (*мець* замест *быць*). І толькі калі пераапранутыя гарылы Шэймана зацягнулі іх у машыну, яны ўпершыню перажылі сваю місію ў сьвеце, іншымі словамі, пачалі *жыць у сабе* (паводле Ж.П.Сартра être-en- soi). Праз нешта падобнае прайшоў Буда (у сьвеце – прынц Гуандама), які задумаўся аб сэнсе жыцьця толькі тады, калі пабачыў жмурыка. Таму калі Завадзкі, Ганчар і Захаранка жывыя, то нядзіўна, што яны не выходзяць на кантакт зь сьвецкай грамадзкасьцю. На кой ім хер уся гэтая пігмейская мітусьня, калі яны спазналі ісьціну.

**...Моўную сытуацыю ў Беларусі.**

Моўная дыскусія – гэта небачная барацьба за ідэалы экзыстэнцыялізму ў Беларусі. Мова разглядаецца экзыстэнцыялістамі як «Дом Быцьця» (М.Хайдэгер). Трэба вярнуцца да каранёў, да протамовы, калі чалавецтва цікавілі больш катэгорыі быцьця, а не праблема, як скамунізьдзіць на працы медны дрот і талкануць яго налева. Паколькі ў нас дасюль не адбылося кадыфікацыі беларускай мовы, экзыстэнцыялісты маюць шанец ажыцьцявіць свае мары аб мове як сыноніме тоеснасьці быцьця і асобы. Паводле Хайдэгера, ановай экзыстэнцыяльнай мовы павінна быць маўчанка. «Маўчаньне дае слова самому быцьцю». Цудоўным прататыпам такога экзыстэнцыяльнага маўчуна-беларуса зьяўляецца тургенеўскі Герасім. Ягонае «Му-му» гэта шыфр, знак патойбаковых сіл, праз якія адбываецца зноў-такі прарыў у сапраўднае існаваньне. Санкрыцкі корань «му» азначае вызваленьне, яму адпавядае тэрмін японскага дзэну «*саторы*». Адсюль «му-му» – падвойнае, або поўнае вызваленьне. Таму настаўнікі беларускай мовы павінны вучыць вучняў ня дзеканьню і цеканьню, а мастацтву рабіць паўзы. Такім чынам мы вырасьцім цэлую нацыю экзыстэнцыялістаў, а дзяржаўнай мовай РБ будзе маўчанка, а не трасянка.

# «Ты – гандон, і ты – гандон. Я – віконт дэ Бражэлон!»

Так сьцісла можна пераказаць асноўны зьмест кнігі Тамары Віньнікавай *Жанчына й зграя*, разьдзелы зь якой публікавала *БДГ*. **«Усе ў гаўне, я – ў белым фраку»**, – гэта ўжо квінтэсэнцыя «выкрывальнага» інтэрвію Івана Ціцянкова, дадзенага ім Аляксандру Старыкевічу (*Новые Известия*). Раней у падобным ключы пасыпалі галаву попелам «апазыцыянэры» Фядута, Багданкевіч, Лябедзька, Захаранка, Ганчар, Завадзкі, Чыгір, Пашкевіч, Сініцын і іншыя перабежчыкі. Як кажуць, прыгнечаныя народы расейскай поўначы: «Тэндэнцыя, аднака».

Каб аблегчыць задачу наступным будучым экс-паплечнікам прэзыдэнта (Шэйману, Канаплёву, Посахаву, якія неўзабаве могуць таксама выступіць у прэсе з гнеўнымі заявамі супраць «злачыннага рэжыму»), рэдакцыя газэты *Навінкі* прапануе ўжо гатовы шаблён, куды трэба толькі ўпісаць некалькі імёнаў і назваў. Усе 6 пунктаў нашага шаблёну ўзятыя з выступаў першапраходцаў жанру «шасьцёркі».

**1.** Аляксандар Рыгоравіч прапанаваў мне дапамагчы яму падчас прэзыдэнцкай кампаніі. Я пагадзіўся, бо падумаў, што малады энэргічны кіраўнік, прыйшоўшы да ўлады, зможа падняць эканоміку краіны, палепшыць дабрабыт простых людзей.

**2.** І я ўзяўся за працу. Прыйшлося нанова наладжваць працу (*пазначце назву вашага ведамства* – **Рэд.**). Пасьля майго прыходу быў створаны творчы калектыў з адмыслоўцаў розных галінаў народнай гаспадаркі. Мною ад пачатку была пастаўленая задача (*удакладніце, якая канкрэтна* – **Рэд.**). І гэта, як вядома, мне ўдалося.

**3.** Што стала прычынаю маёй адстаўкі/арышту (*патрэбнае падкрэсьліць* – **Рэд.**), мне не вядома дагэтуль. Магчыма тое, што я ўвесь час казаў праўду Аляксандру Рыгоравічу проста ў вочы, заўсёды меў уласнае меркаваньне. Я ўпэўнены, што, каб было паболей такіх жа прынцыповых, адказных кіраўнікоў як я, не было б такой катастрафічнай сытуацыі ў краіне.

**4.** Хачу адзначыць, што падчас знаходжаньня мяне на пасадзе (*пазначце сваю былую пасаду* – **Рэд.**), са старонак газэт мяне неаднойчы абвінавачвалі ў цёмных справах, да якіх я насамрэч ня меў ніякага дачыненьня. Толькі потым мне стала вядома, што гэтыя газэтныя артыкулы былі праплочаныя маімі недабразычліўцамі.

**5.** Колькі мяне ні спакушалі й ні запужвалі, я ніводнага разу не парушаў закон і ня браў удзелу ў злачыннай дзейнасьці. Так што кампрамату на мяне няма й ня будзе.

**6.** Я б мог распавесьці й пра вельмі цёмныя старонкі дзейнасьці ўлады, назваць канкрэтныя імёны карумпаваных чыноўнікаў, паказаць дакумэнты аб іхных рахунках у швайцарскіх банках, але пакуль яшчэ не прыйшоў для гэтага час.

«Шасьцёркі», дзярзайце! ●

**ІУДА ІСКАРЫЁТ,**
АПОСТАЛ У АДСТАЎЦЫ,
ЭКС-ЗАЎХОЗ ПРЫ АДМІНІСТРАЦЫІ ІРАДА



Іван Ціцянкоў склейвае ашмёткі бел-чырвона-белага сьцягу, толькі што разарванага злачыннай камандай Лукашэнкі. Менск, май 1995г.

Вось, напрыклад, як маглі б выглядаць чарнавыя запісы інтэрвію Рудольфа Геса вядомай нямецкай журналісткі, вядучай рубрыкі «Будуары» Фрыды Лунц, датаваныя 1954 годам.

«Спачатку я думала, што гэта будзе проста інтэрвію. Быў Бэрлін, у Шпандаў давалі пярлоўку. Пасьля вячэры мы з Рудзі Гесам адышлі ад парашы, і я пачала запісваць. Нейкая недасказанасьць паказаньняў Рудольфа Геса на Нюрнбэрскім працэсе прымушала падумаць, што й зараз усё застанецца пад покрывам таямніцы. Аднак размова пачалася вельмі шчырая. Ісьпісаўшы першы нататнік, я сказала: «Стоп! Гэта ўжо не інтэрвію. Гэта падобна на кнігу. Усе любяць чытаць мэмуары людзей, якім ёсьць, што ўспомніць». Азартны Рудзі Гес адказаў: «Добра! І назавем гэтую кнігу «Нібэлунг і зграя недачалавекаў». Шкада толькі, што ў Нюрнбэргу ў мяне гэтая свалата фоткі адабрала!»

## ТЭле-шОў

### Big Candidat.

Пяць прэтэндэнтаў шчэмяцца на вакансію адзінага дэмакратычнага кандыдата. Галоўная цяжкасьць пры выбары «адзінага» заключаецца ў тым, што мы ня ведаем нутра прэтэндэнтаў. Зьнешняя абалонка – гэта толькі штукатурка, прыдуманая візажыстамі-піаршчыкамі для лахоў. Прыклад – народны кандыдат Лукашэнка, які сем год назад паабяцаў прагрэсіўнаму журналісту Фядуце і лібэралу Лябедзьку дэмакратычную шакаладку. Дэмакраты-малалеткі клюнулі, а ён ім пасьля прыходу да ўлады зрабіў клясычны адзюльтэр.

Калі гісторыя паўторыцца, айчыннаму дэмакрату ня цяжка застацца на лаўрах мадам Грыцацуевай: раніцай пасьля выбараў прачнуцца ў халодным ложку і знайсьці на стале цэдулку: «Паехаў у Маскву падпісваць саюзную дамову. Цалую. Твой сусьлік». Каб распазнаць сутнасьць кандыдата, прапануем эфэктыўны сродак – Reality Show! Гэтая тэлегульня, ад якой сёньня калбасіцца ўся плянэта, узьнікла ў Галяндыі ў 1999 годзе й называецца Big Brother. Прынцып наступны: у звычайны пакой з вуліцы набіраюць некалькі прэтэндэнтаў, кожны крок і жэст якіх здымаюць кінакамэры. Тэлеглядач павінен вызначыць самага адстойнага з удзельнікаў і, патэлефанаваўшы на студыю, выказаць сваё меркаваньне. Па выніках галасаваньня горшага адсылаюць нафіг. Праз некалькі выпускаў шляхам такога выключэньня застаецца адзіны шчасьліўчык, які і атрымлівае баснаслоўнае бабло.

Reality Show куды празрысьцей, чым дурацкія прамовы кандыдатаў, напісаныя за іх спічрайтэрамі. За гэта гаворыць і папулярнасьць праграмы. На сёньняшні дзень Reality Show праглядзелі па сьвеце каля 300 мільёнаў гледачоў. Вы напэўна ўжо скумекалі, што мы прапануем. Чаму б не памясьціць пяцёх дэмкандыдатаў у адзіны пакой студыі БТ і не зрабіць тыднёвае шоў Big Candidat. Такім чынам, за пяць дзён мы б даведаліся пра ўсе павадкі й думкі кандыдатаў і нават пра колер ягоных сямейнікаў. Трыюмфатар шоў і будзе сапраўдным народным кандыдатам. Каб вы самі ўявілі эфэктыўнасьць, прапануем вам фотафантазіі наконт таго, як магла б выглядаць такая праграма. Няхай пераможа народны!

## ЦьтАта ў нУмар

### Зброя 3 тысячагодзьдзя



*«А вось на плошчу Незалежнасьці выяжджаюць самагонныя... самаходныя устаноўкі...»*
*З прамой трансляцыі вайсковага параду 3 ліпеня 2001.*



# Тры бухлы



*Эмблема перадвыбарчай кампаніі Сямёна Домаша да болю нагадвае вядомы сталічны 40-градусны напой «Два буслы». Што гэта можа азначаць для электарату?*

Як толькі ні тужацца прэтэндэнты на кандыдаты ў прэзыдэнты, каб перахіліць на свой бок сымпатыі электарату. Адны абяцаюць сотку баксаў мінімалкі, другія бажацца, што пры камунізме сапраўды ўсё будзе заяпісь і ўсё будзе ў кайф. У ход ідуць апошнія дасягненьні пі-ар тэхналёгіяў, якія б'юцца над распрацоўкай блізкай для народных мас сымболікай.

Аднак найбольш чульлівай да народных чаяньняў аказалася каманда Сямёна Домаша. Ход домашаўцаў быў простым, банальным, але трапным: у якасьці эмблемы перадвыбарчай кампаніі былога гарадзенскага ваяводы былі абраныя тры буслы. Нехта можа падзівіцца, пры чым тут Домаш і буслы. Насамрэч для любога прадстаўніка электарату ўсё зразумела як божы дзень: домашаўскія пярнатыя – прамы намёк на крышталёўскі прадукт «Два буслы». У такой немудрагелістай форме было прыхаванае перадвыбарчае пасланьне штабу Домаша да беларускага народу: маўляў, галасуй за мяне, а пасьля перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах, у беларусаў будзе гарэлкі – хоць заліся. Пра гэта сьведчаць і колеры птушак – два буслы ўжо белыя ад чарговага прыступу «дэлірыюм трэнум», а адзін толькі-толькі расчырванеўся ад прынятай дозы.

Неўзабаве варта чакаць адэкватнага адказу й ад іншых ініцыятыўных груп кандыдатаў. Чыгір у якасьці эмблемы, відаць, абярэ ўзброенага вершніка з крыжом на шчыце («Крыжачок»), а Машэрава – партрэт свайго бацькі («Порт 79»)




**13 000 беларускіх сірот чакаюць усынаўленьня**

# Sex, Luka & Rock'n'roll

## *– такі новы фармат Радыё «Стыль»*




Такія перадвыбарчыя плакаты будуць аздабляць інтэр'ер сталічных рок-клюбаў для агітацыі нефармальнага электарату.

У радыёэфіры сталіцы пачалася барацьба за новы сэгмэнт электарату: нефармалаў. Вось ужо некалькі тыдняў забаўляльны рупар БПСМ Радыё «Стыль» выходзіць у новым «альтэрнатыўным» фармаце. Цяпер замест былых папсовых канцэртаў па заяўках, Саладухі, Маісеева і SPICE GIRLS па вушных пробках мэлямана безь перапынку б'юць брутальныя банды, у шлягерах якіх лепш за ўсё можна разабраць «Сак май дык», «Кіс май эс», «Мазафака» і іншыя «Хочешь, я убью соседей?».

Здавалася б, усё нішцяк, калі б не адна акалічнасьць: станцыя ж дзяржаўная!!! Усё сьведчыць аб тым, што напярэдадні выбараў Лукашэнка вырашыў усур'ёз узяцца за дагэтуль некранутыя пласты беларускай моладзі – за тых, хто ходзіць у «Альтэрнатыву», ня мые хаер, косіць ад войска і на дасугу ня супраць умазацца добрым гаўном. Ужо сёньня ў прамежках паміж тэмамі N.R.M. і запіламі RAGE AGAINST THE MACHINE прыемны дзявочы голас усё часьцей зачытвае падборкі навінаў з далёка не нэйтральнымі камэнтарамі, падазрона прыбліжанымі да жанру Ніны Чайкі з «Размовы па сутнасьці». Што будзе далей, можна здагадацца.

Але ці разумее Рыгорыч, у якую кляаку яго можа зассаць сумнеўная ініцыятыва суценёраў ад перадвыбарчага пі-ару? Здароўе і імідж Бацькі наўрад ці вытрымаюць грымучага спалучэньня пацалункаў з Патрыярхам, гульні ў футбол і хакей, ваеннага і вясковага фальклёру з сатанізмам, касякамі, пірсынгам і экзатычным афарбаваньнем прэзыдэнцкіх валасоў. Аднак, адваротнай дарогі ўжо няма, бо канкурэнты ўжо наступаюць сваімі кованымі «мартэнсамі» на бацькавы «целяханы» з крыкамі: «Лыжню, чэл!» На апошнім адборачным канцэрце на ўдзел у «Басовішчы» сярод прысутных быў заўважаны будучы апазыцыйны кандыдат у Прэзыдэнты Сямён Домаш. Ён паводзіў сябе, як мацёры рокер: адрываўся ў пога, ныраў са сцэны ў абдоўбаны натоўп і роў як блэкер: «З вамі я абавязкова перамагу». Ну-ну

***(пераклад з анг): Прашу вашай паддзержкі!**

**Кляус Мюлер**

# Ахвяры інцэсту

## *Над белавескімі зубрамі навісла пагроза выміраньня*

Белавескую пушчу ў хуткім часе накрые заалягічная катастрофа. Пад пагрозай апынуліся гонар і годнасьць нашай краіны – зубры. *Навінкі* ня раз ужо зьвярталі ўвагу на пытаньні беларускай фаўны. Ні для каго не сакрэт, што сапраўдныя белавескія зубры былі вынішчаныя яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай ня ў меру падкімі да паляваньня магнатамі. Тыя ж рагатыя жывёлы, якіх мы й ведаем пад паганялам «зубры», – звычайныя бізоны, якіх імпартавалі ў Белавескую пушчу толькі ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя. (Пра гэта *Навінкі* падрабязна пісалі ў №1 за 2001г.).

Аднак, як ведае кожны батанік, калі штучна ўлазіць у законы прыроды, то неўзабаве прырода пакажа зубы. Гэтак атрымалася і з нашымі рагатымі эмігрантамі. Пагалоўе імпартнага зубрынага ската было абмежаваным некалькімі дзясяткамі. Непазьбежна сталася так, што «зубры»-бізоны ператрахаліся між сабой, стаўшы адной кроўнай сям'ёй. І каб наталіць сваю прыродную цягу да спарываньня, малады самец вымушаны быў скакаць на сваю біялягічную маці, а стары бацька адцягваў адзінакроўную дачку. Вядома ж, такі Садом і Гамора ня мог працягвацца доўга. Неўзабаве зубры крывазьмясіліся да такой ступені, што ў іх пачаліся генныя мутацыі: большасьць асобінаў мужчынскага полу хварэе на рак яечак, а ў самак назіраюцца парушэньні мэнструальнага цыклу. З такімі недугамі ні пра які сэкс ужо не прыходзіцца думаць. Вынік інцэсту ўражвае: у зуброў даўно ўжо няма прыбаўкі патомства. Папуляцыя апынулася пад пагрозай зьнікненьня. Спэцыялісты-зубразнаўцы ламаюць галаву, дзе ўзяць сьвежай крыві, якая б магла выратаваць візытоўку Беларусі.

Між тым узьнікае натуральнае пытаньне: чаму ж адна з найбольш скандальных маладзёвых арганізацыяў абрала сабе падобную назву? Што мелі на ўвазе стваральнікі палітычнага «Зубра», можна толькі гадаць. Хочацца толькі параіць нашым зубрам асьцярожней ставіцца да чысьціні крыві й не крывазьмешвацца з падазронымі роднаснымі арганізацыямі

**Андрусь Зацявахін**












1 ліпеня наш народ адзначыў урачысты юбілей. Год таму ў Беларусі пачаўся экспэрымэнт па ўвядзеньні сыстэмы «адзінай адраснай сацыяльнай дапамогі». Нажаль, некаторыя цемрашалы ўспрынялі навінку як мэтад эканоміі дзяржбюджэту за кошт насельніцтва. Ня трэба, калі ласка, ля-ля: справа йдзе аб надзвычай карысны тэрапэўтычнай працэдуры.

# Клінічны амбуланс супраць сацыяльнай булііміі




Жудасны біч Беларусі пачатку XXI стагодзьдзя – беднасьць. Дастаткова блізарукім вокам зірнуць у дадзеныя Міністэрства статыстыкі і аналізу, каб упэўніцца, што сёньня гэты сацыяльны яшчур гнойным прышчам абсыпаў усё цела нацыі. Больш за 40% гордых балта-славянаў знаходзяцца ніжэй за рысу бюджэту пражытковага мінімуму! «У чым прычына? У нас жа рост валавага прадукту! Мы ж усходнеэўрапейскі дракон!» – доўгі час ня мог знайсьці спакою сердабольны беларускі ўрад. Нарэшце, год таму з вуснаў дырэктара рэгіянальнага аддзелу **Сусьветнага Банку** Люка Барбонэ на Прэзыдэнта з чэлядзьдзю сыпло азарэньне.

Як лічаць міжнародныя спэцыялісты, трагедыя Беларусі ў тым, што да нядаўняга часу яна «змагалася зь беднасьцю» праз мэханізмы «ўсеагульнай» сацыяльнай абароны, змрочныя рудымэнты якой дасталіся грамадзянам РБ у спадчыну ад «саўка» разам з Чарнобылем, Курапатамі і МТЗ. Урад «пічкаў» плебс разнастайнымі ільготамі і субсыдыямі (на некаторыя прадукты харчаваньня, транспарт, жыльлёва-камунальныя паслугі, лекі і г.д.), не разумеючы, што тым самым толькі... усугубляў праблему. І вось Лука даведаўся ад Люка, што каб перамагчы галечу, трэба тэрмінова адмовіцца ад існуючай сацыялкі і перайсьці на практыку часовых успамог, і то толькі самым апошнім заморышам. Беларусу №1 імпартны праект спадабаўся. Маўляў, і бюджэт сэканомім і людзям жыцьцё палепшым. Пачынаючы з 01.07.2000 у некаторых рэгіёнах былі запушчаныя пілотныя праграмы хэлпу а-ля-Барбонэ. Згодна з сумесным плянам, сыстэма будзе паступова распаўсюджвацца па астатніх гарадах і вёсках РБ і да 2005 году ахопіць увесь арэал абітаньня беларускіх грамадзянаў.

> ***«Адна з прычынаў, з-за якіх большасьць беларусаў жыве сёньня бедна, заключаецца ў тым, што ільготы прадстаўляюцца тым сацыяльным групам, якія найменш актыўныя, найменш пэрспэктыўныя» (Леанід Заіка, дырэктар аналітычнага цэнтру "Стратегия")***

«Адрасная дапамога» будзе выглядаць наступным чынам. Чытач, уяві сабе, што ўсе цэны рашуча вызваленыя ад нейкага кантролю, ільготы і субсыдыі зьніклі зь сінюшнага твару Радзімы канчаткова і беспаваротна, а ты, як і ўсе члены тваёй сям'і, маеш даход ніжэй за бюджэт пражытковага мінімуму (альбо, для прадзьвінутых, БПМ). Дыхай глыбей: ты – за рысай беднасьці. Аблізваючыся, ідзеш у органы сацыяльнай абароны па адрасную халяву. Стаіш у чарзе, падаеш неабходныя дакумэнты, дэкларацыі, даведкі, выпіскі, эпікрыз, сэртыфікаты, копіі сэртыфікатаў, пасьведчаньні, мэтрыкі... , а табе кажуць: «Ізьвяніця». Згодна з новай сыстэмай, на ўспамогу будуць мець права толькі тыя, чый даход не перавышае 50% БПМ. А ў цябе аж 54 – зажраўся, як кажуць. Затое ў твайго суседа – 49. Шчасьлівы й горды, ён атрымоўвае «адрасную дапамогу» ў памеры ... даплаты да тых самых 50%. «Ёшкін кот, нешта тут ня так», – у роспачы казытаеш ты свой хаер і чамусьці ўзгадваеш ужо падзабытую фразу з Мэмарандуму аб эканамічнай і фінансавай палітыцы на пэрыяд з 1 красавіка па 30 верасьня 2001: «Урад разглядае абарону малазабясьпечаных слаёў насельніцтва ў якасьці краевугольнага каменя нашай палітыкі ў сацыяльнай сфэры. Мы працягнем наша супрацоўніцтва з Сусьветным Банкам дзеля дасягненьня гэтай мэты» (*Национальная экономическая газета*, №36, 2001). Шэптам задаеш некарэктнае пытаньне: «Як можна абараняць малазабясьпечаных, адначасова скарачаючы ім дапамогу?» Можна, і яшчэ як! Проста трэба глянуць на галечу з пункту гледжаньня нэалібэральнай тэорыі «адраснасьці», згодна зь якой беднасьць – індывідуальная хвароба, сарамлівая язва, адказнасьць, за якую нясе сама ахвяра. Тая палова грамадзян краіны, якія сёньня няздольныя забясьпечыць сабе й свайму вывадку заможнае жыцьцё, пасьпяхова спэкуляваць енамі на біржы і канкураваць на рынку працы, проста вядуць нездаровы лад жыцьця. І не апошняе месца тут займае рэжым харчаваньня азначаных асабей. П'ем мы ваду «Улыбка» ці ўжываем унутрана макароны «Роллтон», усе гэтыя рэчывы пакідаюць у нашых арганізмах незасваяльныя рэшткі – таксіны й шлакі. Зь цягам часу апошнія накопліваюцца, што прыводзіць да разнастайных захворваньняў: нестабільнага стулу, расстройстваў лібіда, перхаці, раку... У тым ліку й да нэрвовых расстройстваў. Стрэс, агульныя млявасьць і санлівасьць, падзеньне працаздольнасьці, разумовай актыўнасьці, IQ і разам зь імі – безыніцыятыўнасьць, лянота й утрыманства. Адсюль – беднасьць.

Экспэрты Сусьветнага Банку прыйшлі да высновы: шлакі трэба выводзіць. І лепшы сродак – жорсткая дыета. А як гэта зрабіць на масавым узроўні? Толькі забіўшы асінавы кол у апухлае цела монстра соцзабесьпячэньня. Пэрманэнтны камбікорм у выглядзе сацыяльнай абароны – самы хуткасны аўтобус у бамжатнік, бо шлакі, накопленыя за дзесяцігодзьдзі дзяржаўна гарантаванага пераяданьня, пазбаўляюць дармаедаў сілаў і духоўнай энэргіі, неабходных, каб пачаць варушыць попай дзеля ўласнага ўзбагачэньня. Такім чынам, новую сацыяльную дактрыну Беларусі трэба разглядаць як выратавальную масавую працэдуру лячэбнага галаданьня, падобна ранейшым дзяржаўным праграмам па вітамінізацыі прадуктаў, ёдаваньні й фтарыяваньні солі, сухога кісялю й г.д. Рэзультат лячэньня лепшы, чым у доктара Хадоркіна – здаровыя, стройныя й заможныя беларусы з жывым прадпрымальніцкім духам у грудзях. Калі ж галаданьне не дапаможа, дзякуючы павышэньню тарыфаў на энэргію, зімой нас чакаюць сэансы закаліваньня па мэтаду Парфірыя Іванова, а ў дачыненьні да хворых, якія будуць займацца самалячэньнем ці ўхіляцца ад працэдураў, будзе ўжытая мануальная тэрапія. Бывайце здаровы – жывіце багата!●

**Раман Яраслаўчук**

## Пяцігодку за 3 гады!

**Месяц прайшоў, а з салёнаў Палаца Рэспублікі дасюль ня выветрылася церпка-праны мускус Другога Ўсебеларускага Сходу. Экстазам гэтага веча стала адзінагалосная ратыфікацыя эпахальнай Праграмы сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця краіны на 2001-2006. Як і раней, у аснову лёсаноснага дакумэнта легла алімпійская ідэя – вышэй, мацней, хутчэй. Другая Беларуская Пяцігодка павінна нарадзіць сваіх перадавікоў. Заданьне мінімум - дагнаць і перагнаць Беларусь калібру ліпеня 1991 году і тым самым накруціць сьліўку канкурэнтам-расейцам, якія рвуць на сабе цельнікі, намагаючыся дасягнуць парамэтраў 1913 году (гл. А.Салжаніцын "Как нам обустроить Россию»). Заданьне максымум – выканаць наказ Прэзыдэнта і дэлегатаў Сходу за тры гады!**

**Аднак, жорсткія ўмовы маніторынгу МВФ не дазваляюць краіне вольных крывічоў ісьці, як раней, па экстэнсіўным шляху разьвіцьця – будаваць фабрыкі, уздымаць цаліну, асушаць дрыгву і будаваць экспрэс-мікрараёны. Адзінае выйсьце, як трапна адзначыў кіраўнік дзяржавы – у раскрыцьці схаваных патэнцыяў эканамічнага росту, інтэнсыфікацыі вытворчасьці за кошт больш рацыянальнага выкарыстаньня існуючага рэсурсу. Патрабаваньне павышэньня прадукцыйнасці працы закране ўсіх. Халявы ня будзе ні для каго. Сакральны абавязак кожнага беларуса, дзе б ён ні працаваў, – сьціснуўшы мэталічныя каронкі і плёмбы, удзень і ўначы, у сьпякоту і сьцюжу, уздымаць індэкс асабістай прадукцыйнасьці. На гэты раз ніводзін лайдак ня зможа адсядзецца ў цепленькіх нішах мэдыцыны, культуры, адукацыі і г.д. Скарачэньне бюджэтных асыгнаваньняў на гэтыя сфэры вымушае перагледзець іхныя ролю і функцыі.**

## РЭСПУБЛІКАН



**У.Навумаў, міністар унутраных справаў.**

Якасна новыя заданьні, якія ўстаюць перад нашай краінай на актуальным этапе разьвіцьця немагчама вырашыць бязь цеснай узаемасувязі духоўных і фізычных фактараў. Такі стыль працы дэманструе калектыў менскага АМАПу, які ў сваёй паўсядзённай працы кіруецца строгім прынцыпам: паменей траскучых фраз, паболей канкрэтнай вязкі. Вось крытэр, згодна якому сёньня вызначаецца глыбіня спэцназаўскага таленту. У выніку былі дасягнутыя звышплянавыя паказьнікі: нарублена 300 тон апазыцыянэраў, выкрадзена 8 галоў журналістаў і апазыцыйных дзеячоў.




**Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі.**

Гарачы водгук у працоўным калектыве праваслаўнай царквы сустрэлі пастановы Другога Ўсебеларускага Сходу. Прадпрыемству амаль 2000 гадоў, але хіба гэта прычына, каб сядзець склаўшы рукі, у той час калі ўсе галіны гаспадаркі сканцэнтраваныя на паглыбленьні працэсаў інтэнсыфікацыі вытворчасьці. Праводзячы ў жыцьцё прынцыпы Сходу праваслаўнае духавенства адпела каля 1346 літургіяў і выгнала 4370 д'яблаў. Гэта на 234 д'яблы болей чым за мінулую пяцігодку і на 567 нячысьцікаў болей, чым выгналі служыцелі каталіцкага культу. Хіба гэта не галоўны залог авангарднай ролі Праваслаўнай царквы ў нашым грамадзтве.

# Бацькі і дзеці



*«Я цябе парадзіў – я цябе і заб'ю!» – зароў Тарас Бульба, устаўляючы сыну Андрыю-Анджэю ў раён аорты стрыжань казацкай шаблі. Сёньня ЗША назіраюць за рымэйкам гогалеўскага сюжэту. У ролі старога казака Тараса – прэзыдэнт Буш-юніёр.*

*1*

Мэксыканскі бар у горадзе Остын (штат Тэхас) выглядаў сіратліва. Бармэн Хасэ падлічваў страты, калі загробную цішыню разарвалі звонкія дзявочыя галасы. Да стойкі наблізіліся дзьве чыксы-блізьняткі: «Два тэкілавых кактэйлю «Маргарыта». І варушыся, чыканас, трубы гарацъ», – фальшыва прагундосіла адна з саплячак. Наконт такой публікі ў Хасэ былі дадзеныя жорсткія інструкцыі: «Лэдзі магчыма не вядома, што па законах штату Тэхас, алькаголь забараняецца прадаваць да 21 гадоў. Калі ў міс знойдуць нават цукерку «Сталічная» зь лікёрам, на першы раз яе штрафануць, на другі прымусяць наведваць курс занудных лекцыяў, а на трэці адправяць на тры месяцы працаваць на хімію. Гэта прынцып zero tolerance, пакладзены ў аснову нашага маладзёвага заканадаўства».

Па зьбянтэжанай фізыяноміі герлы відаць, што ў ейнай душы ідзе бойка паміж дабром і злом. Анёл-Захавальнік нёс звычайную пургу: «Пойдзем адсюль, малышка. Давай лепш дапаможам пэнсіянэрам стрыгчы пазногці або пераходзіць транспартную артэрыю». Ягоны апанэнт зьлева, Анёл-Спакушальнік сабаку зьеў, працуючы з гэтай target group: «Ня слухай гэтага нудзілу, падруга. Паспрабуй пакачаць правы. Калі праканае, набухаемся як парсючкі. Кул!».

«Мэтраполітэн-М'зыэм» выставіў ня даўна на публічны агляд новы габэлен Эндзі Ўорхала-малодшага «Буш-юніёр забівае сваю меншую дачку Джыну за бутэльку джын-тоніку»

«Табе можа яшчэ пашпарт з прапіскай паказаць?» – пісюха тыкнула ў раху бармэна корку «Пасьведчаньне маці-гераіні». «Калі адрозьніваеш знакі на пісьме, чытай: місыс Хадсан, 1970 году нараджэньня, трое дзяцей, двойчы замужам...» Аднаго позірку для Хасэ было дастаткова каб зразумець, што пячатка выробленая ў Photoshop 6. «Добра, добра, мэм. Вы казалі кактэйль «Маргырыта». ОК. Зараз толькі за льдом мятнуся». Бармэн выйшаў з чорнага ходу й паклікаў копа. Праз хвіліну маладыя алькагалічкі юлілі перад сьледчым у дзіцячым пакоі паліцыі. Тым часам Чак Норыс і Хасэ шманалі іхнія сумкі. Раптам твар мэксыканца пераклініла: «Маці Боская Гвадэлупская! У знойдзеных студэнцкіх білетах чорным па белым значылася: «Джына і Барбара Буш». Малыя былі роднымі дачкамі прэзыдэнта Буша!

*2*

Чэрвеньскім вечарам 1997 году Бушу, тады губэрнатару Тэхасу, паклалі на подпіс законапраект аб увядзеньні адказнасьці за ўжываньне алькаголю ва ўзросьце да 21 году. Буш ня парыўся. Хіба ён не зрабіў сабе імя як самы жорсткі палітык, чый штат заўсёды быў фэдэральным рэкардсмэнам па колькасьці сьмяротных пакараньняў? Хіба ён ня верны пасьлядоўнік вучэньня прафэсара Чарлза Мюрэя?..

Чарлз Мюрэй – гэта быў перац, які безумоўна паслужыў для стваральнікаў сэрыялу «Чып і Дэйл» прататыпам шызанутага прафэсара Нінгла. Калі мэтай Нінгла было зьнішчэньне бурундукоў-выратавальнікаў, то Мюрэй праславіўся сваімі наездамі на г.зв. мадэль «welfare state» (дзяржава ўсеагульнага дабрабыту). Бывала, зловіць каго-небудзь за гузік на офісе рэспубліканскай партыі і заводзіць пласьцінку: **«Наша крэда – менш дзяржавы, усе беды краіны ад сацыяльнай дапамогі. Бясплатная адукацыя і мэдыцына губяць прыватную ініцыятыву і стымулююць паразытызм»**. Калі Рональд Рэйган у 1980-ым дарваўся да Белага Дому, ён зрабіў усё, як завяшчаў сансэй. У выніку нэакансэрватыўных рэформаў пачала расьці колькасьць маргіналаў, што справакавала ўздым злачыннасьці. Тут Мюрэя быццам падмянілі. «Наша крэда – больш дзяржавы», – заявіў ён аднойчы, прыйшоўшы ў Капітолій. Ягоны конгеніяльны плян палягаў у наступным: грошы, сэканомленыя ад адукацыі і мэдыцыны, прапанавалася траціць на паліцыю і турмы ды прафіляктыку злачынстваў. Справу Мюрэя працягнулі Джордж Келінг і Джэймс Уілсан супрацоўнікі Manhattan University. **«Хопіць сюсюкацца з злачынцамі. Абараняць парадак трэба паводле формулы «Хто скрадзе яйка, той скрадзе й курыцу»**, – шкрабалі яны на старонках часопісу *Atlantic Monthly*, – **Давайце жорстка караць падлеткаў за самыя дробныя выхадкі, каб у зародышы зьнішчыць паталёгію злачынства»**.

Першым практыкамі канцэпцыі zero tolerance быў Рудзік Джуліані, губэрнатар Нью-Ёрку. Ён узьняў бюджэт гарадзкой паліцыі ў 10 разоў, у кожным квартале расквартараваў спэцназ. Быў створаны цэлы інстытут стукацтва. КПД усіх гэтых мерапрыемстваў быў вельмі адмоўным. Каб падтрымаць міт аб злачыннасьці, паліцыя хапала каго заўгодна. Толькі за 1990 год арыштавалі 390 000 чалавек. Гэта прыкладна столькі, колькі з 1975 па 1989 год разам узятыя.

...З прастрацыі Буша вывела яго 16-гадовая Джына, якая забегла ў бацькоўскі кабінэт. «Фазэр, адсьцягні пару баксаў. Хачу набыць... Э-э-э-э, так, хачу для сваёй Барбі новую вячэрнюю сукенку». «Вось яна, будучыня Амэрыкі», – падумаў малады губэрнатар, гладзячы доньку па куполу. «Яна не лянівы гарлемскі нігер, які прырэчаны культурным асяродзьдзем факаць клей і танчыць рэп». Буш выцер расу на скуле, сеў за стол і сьмела падмахнуў законапракет.

*3*

«Слова даецца абвінавачанай міс Буш». Усе прысутныя вылупіліся на 19-гадовую герлу ў паласатым кліфту, якая, зьбіваючыся, пачала свой апошні спіч: «Шаноўны суд, шаноўныя прысяжныя. Я прызнаю, як нізка я пала, і маю надзею, што вы мяне адэкватна пакараеце. Усё пачалося ў верасьні 1997 году, калі мы ўсёй клясай набылі банку піва. Гэтак я ўступіла ў канфлікт з законамі. Мой адвакат-лібэрал расьпінаўся тут, што мне можна было даравацъ. Хіба гэта злачынства – пацягнуць піва з гарла? Не кажыце. У такім выпадку, як слушна пісаў Чарлз Мюрэй, я вырашыла, што мне ўсё дазволена. Пачала б хутка калоцца, забіваць людзей, пускаць вірусы ў кампутары або прадаваць расейцам ваенныя сакрэты. Дзякуй богу, існуе канцэпцыя zero tolerance, якая вымагае сурова караць падлетка за любы пракол. Зь мяне садралі палцінькік. Аднак, не прайшло і пару гадоў як мяне зноў арыштавалі па тымсама артыкуле. На гэты раз я проста была ў кампаніі з абдолбаным бой-фрэндам. За гэта мяне тры тыдні кляпалі мозгі лекцыямі аб шкоднасьці піўнога сусла. Пасьля заканчэньня папраўчага курсу я вырашыла абмыць такую справу. Падрабіла дакумэнты і, прыхапіўшы сястрычку, пайшла ў мэксыканскі бар. Там нас і павязалі. Цяпер, шаноўнае спадарства, я чакаю вашага вэрдыкту. Як рэцыдывісту, мне пагражае 2000 у.е. штрафу, або тры мясяцы на хіміі. Гэта нармальнае пакараньне за спробу набыць алькагольны кактэйль. Я малю вас толькі аб адным — ня трэба літасьці. Я веру, што толькі суровая кара здольная вярнуць мяне ў клюб сапраўдных сябраў грамадзтва. Дапамажыце мне стаць чалавекам! Напрыканцы я хачу сказаць толькі адно: няхай жыве Чарлз Мюрэй, яго тэорыя zero tolerance і яе верны сымпатык, мой бацька Джордж Буш Малодшы!» ●

**Андрусь Макаранка**

## ...СКАЯ ДОШКА ГОНАРУ




**В.Іпатава, старшыня Саюзу Пісьменнікаў.**

Хопіць дзейнічаць па страрынцы і расхалашчваць кадры! Трэба выкарыстоўваць перадавыя тэхналёгіі. На гэта нацэліла старшыня СП В.Іпатава калектыў СП, пазнаёміўшыся з матэрыяламі Другога Ўсенароднага Сходу. Сёньня майстры пяра з гонарам рапартуюць аб сваім унёску ў пяцігодку – за гэты папярэдні пэрыяд пісьменьнікамі напісана і здадзена ў набор 4566785678 знакаў! Асаблівы посьпех прыйшоўся на цэх напісаньня прыметнікаў і дзеепрыметнах зваротаў. У наступнай пяцігодцы працоўны калектыў СП чакае мабілізацыя патэнцыялу, што дазволіць узяць новыя рубяжы – асвоіць вытворчасьць постмадэрніцкіх нарацтваў і трыялетаў.




**Т.Бухараў, гал.дэгустатар заводу «Крышталь».**

Адна з галоўных сацыльна-эканамічных заданьняў, якую абвесьціў Другі Ўсебеларускі Сход – пад'ём прамысловасьці, што дасьць штуршок да росту масавага спажываньня й росквіту эканомікі. Як не прыгадаць тут працу алькагольнай прамысловасьці і працу калектыва віна-гарэлачнага заводу «Крышталь», што ўвайшла ў працоўны летапіс пяцігодкі. Палёт творчай думкі дазволіло заводу выйсьці на новыя рэкордныя гарызонты. У выніку за тры гады беларусы выпілі столькі колькі пры старых часах выпівалі за пяць. І гэта толькі пачатак – абяцаюць супрацоўнікі заводу і іх дырэктар.




**А.Лукашэнка, Прэзыдэнт.**

Жывым увасабленьнем непарыўнага адзінства рашэньняў Другога Ўсенароднага Сходу і практыкі стала праца кіраўніка дзяржавы. Прэзыдэнт даў прыклад таму, як трэба гарантаваць якасныя здвігі ў сваёй працы і выканаў свае пяцігадовыя прэзыдэнцкія паўнамоцтвы за тры гады. Тое, на што раней спатрэбіўся б пяцігадовы тэрмін – 2 рэфэрэндумы, 1 канстытуцыя, 34 дэкрэты і 1 разагнаны Вярхоўны Савет, – сёньня, як сведчыць досьвед Прэзыдэнта, магчыма дасягнуць усяго за 3 гады! Працоўны подзьвіг кіраўніка дзяржавы безумоўна дасьць імпульс аптымізму байцам наступнай пяцігодкі.

## о тут у рот, а хто ня ў рот!..»

# dat Pip-Show



### Латэнтная німфаманія.

Калі паглядзець у гісторыю хваробы кандыдата Лу., адразу кідаецца ў вочы ягоная пахатлівая перманентнасць. Апошнія 20 гадоў пацыент займае месца ва ўладных структурпах. Здавалася даўно павінен кончыць, а ў яго ўсе заклапочаны. Што толькі не рабіў пацыент Лу, каб застацца зьверху і разцягнуць салодкую хвілю: праводзіў рэферэдумы, павялічваў сябе срок легіслатуры дэкрэтамі, знішчаў палітычных канкурэнтаў. Акрамя таго, сваімі паводзінамі ён як лаліта-німфаманка уцягвае ў парочнае кола сексуальнай сублімацыі на палітычнай глебе усе новых і новых вычварэнцаў. Парада: магчыма пацыенту Лу трэба проста завесці падружку. Калі гэта не дапаможа, узяць квіток у Таінланд, які славіцца сваімі таннымі кштамі на секпаслугі. Мяркуем, што удзел у паре-тройке каллектыўных оргій назаўседы атаб'юць у яго ахвоту пашыраць свае паўнамоцтвы.

### Латэнтны садамазахізм.

Ідэалягічнае крэда і палітычная біяграфія кандыдата Па. сьведчаць аб неўтаймаванай празе (паводле тэрміналёгіі Райха, der Aufruf) да ўмяршчаўленьня плоці. Пэрвэрзія праяўляецца ў дэманстратыўна-правакацыйным кансэрватызме, аскетызме і нянавісьці да плоцкіх задавальненьняў як асабістых (мазахізм), так і ў адносінах да іншых (садызм). Напрыклад, у адным са сваіх артыкулаў пацыент Па. прапануе ўвесьці цэнзуру на тэлебачаньне на прадмет дэманстрацыі эратычных вобразаў і сцэнаў. Парада сэксоляга: сучасная прамысловасьць прапануе вялікі выбар кампактных прыстасаваньняў (гуртам і ў розьніцу), якія можна выкарыстоўваць у хатніх умовах для зьняцьця полавай фрустрацыі і адмовы ад рэпрэсіўнай палітычнай сублімацыі. Асабіста рэкамэндуем пугу (мадэль DGTT – 234XXL вытворчасьці КНР). Інструкцыя прыкладаецца.

### Латэнтны ваярызм.

Трагедыя пацыента Ві. – манія назіраць за тым, як іншыя сублімуюць сэксуальную практыку пад выглядам палітычнай дзейнасьці. Гэта зайшло так далёка, што пацыент нават прыдумаў сабе прафэсію "назіральнік за выбарамі". Відавочна мэдыцына мае справу з інфантыльнай рэакцыяй, якая сфарміравалася ў пацыента ў стадыі сэксуальнага высьпяваньня. Натуральны інтарэс да таго, як выглядае "гэта", ён ня здолеў з-за высокага парогу сарамлівасьці кампэнсаваць порначасопісамі. Своеасаблівай формай псыхалягічнай кампэнсацыі стаў яго ўдзел у перадвыбарчых камісіях, дзе пацыент Ві. наглядаў за паводзінамі выбаршчыкаў у кабінках, пры інтымным працэсе апусканьня бюлетэня ў шчыліну выбарчага яшчыка. Парада: зьняць комплекс ваярызму пацыенту Ві. і стаць нармалёвым дапаможа стандартны набор відэакасэтаў Чычаліны або нядзельны паход у піп-шоў. Ня будуць залішнімі 2-3 сэансы тэрапіі стрыптызам у Данькоў-клюбе, пасьля чаго Ві. назаўсёды пазбавіцца нэўроза і пачне атрымліваць стабільны аргазм.

### Латэнтная танатафілія.

Ва ўладу кандыдата Ма. неўмаліма цягне гештальт сьмерці. Адзіны спосаб самасьцьвердзіцца ў жыцьці для пацыента падаецца выкарыстаньне іміджу памершага сваяка ў палітычных мэтах. Згодна з тэарэтыкамі фрэйда-марксізму падобныя сымптомы назіраліся ў гішпанскіх фашыстаў і сучасных расейскіх нацыянал-бальшавікоў (іх адпаведныя лёзунгі "Жыве сьмерць!" ї "Да! Сьмерць!). Прыходзячы да ўлады, латэнтныя носьбіты азначанай пэрвэрсіі праяўляюць сваю схаваную сэксуальную акцэнтуацыю ў афіцыйным усталяваньні культу нябожчыкаў, продкаў, масіраваным будаўніцтве мэмарыялаў, маўзалеяў і г.д. Парада сэксоляга: не камплексуйце і сьмела пакідайце палітыку. У сэрыі крамаў "Рытуал" ужо зараз можна набыць якасныя труны, вянкі і надгробія і ўсталяваць іх на ўласным дачным участку. У спалучэньні з асабістымі рэчамі нябожчыка, гробапалажэньне павінна выклікаць у вас першае сапраўднае задавальненьне. Калі ж гэта не дапаможа, сэксолягі прапануюць пацыенту інтэнсіўнае лячэньне – паход ноччу на могілкі. Адзінае пытаньне – дамовіцца з вартаўнікам.

### Латэнтны ананізм.

Кандыдат Сі. сублімуе сваё прыгнечанае лібіда праз тэндэнцыю да палітычнага індывідуалізму. Рэзкае жаданьне выдзеліцца напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў сьведчыць аб загнанай у падсьвядомасьць прыхільнасьці пацыента да індывідуальнага полавага жыцьця. Аб гэтым сьведчыць адно з інтэрвію азначанага пацыента, у якім ён сьцьвярджае, што прэзыдэнцкія выбары – справа выключна індывідуальная. Парада сэксоляга: здавалася б дарослы чалавек, якога наўрад ці хтосьці біў бы па руках. Ня бойцеся: мастурбацыя абсалютна легальная. Чэлес у руку і рэляксуйце сабе на з дароўе, як кажуць у народзе, да крывавых мазалёў. І вы назаўсёды забудзеце шлях да Цэнтарвыбаркаму.

### герантафілія.

Кал. у якасьці электаральнай базы
зьяўляецца бліскучым доказам тэорыі
агодна, па начах у сьне да пацыента
жанчыны пост-бальзакаўскага ўзросту, але
я ўмоўнасьці блякіруюць кандыдата Кал. у
альнасьці. Каб прыстойна каналізаваць
браў ідэалёгію і сымболіку, якой
ць людзі старэйшага ўзросту. Няспыннае
сьці нябачнай рукой Эраса штурхае яго ў
нкі. Парада сэксоляга: замест
й адпачывайце на лаўцы каля суседняга
ы абавязкова сустрэнеце бабулю свайго
у, пад выглядам нямецкага
йцеся валанцёрам у блжэйшы дом

# ТОСЬЦЬ ЗЬ МІНУЛАГА
(Драма ў 2 дзеях)

Коля Герасімаў так і застаўся рамантыкам, якім пры капіталізме адно месца — на памойцы.

«Пракраснае далёка, ня будзь ка мне жасто-ока...»

Обана! Гэта што за пакемон? Фішка зь Пікачу! Клэба! Трэба яе ў дзетсадаўскіх на бухло памяняць

Пакуль Коля броў па падваротнях, фішка выпала зь ятоных рук і пакацілася ў падвал

Устаньце ў круг, вазьміцеся за поручы, заплюшчыце вочы

Не падглядайце!

Ёпці!

ААААА

АААА!!!

(голас зьверху): Тэлепузікі, туляць!

Во, мая, папаў. Як сапраўды!

Ку-ул!

Гут ням-ням!

Хто тут, адзавіцеся, радзі бога

Коля, ты??? Ня можа быць!

Аліса, ты??? Але як...

Як я рада, Коля, што ты зноў з намі. У нас праблемы. Уся Зямля захопленая тэлепузікамі-людаедамі. Яны робяць свой пузі-крэм зь людзей, таму насельніцтва плянэты выядаецца гэтымі пачварамі.

...Усё пачалося, калі па тэлебачаньні сталі круціць праграмы пра тэлепузікаў

«Забі бацькоў!»

«Забі бацькоў!»

«Забі бацькоў!»

У выніку дзеці дапамаглі тэлепузікам захапіць плянэту, якая ператвораная ў кармавую базу

—Мама, хачу пузі-сюрпрыз!
—Ён жа зь беларусаў. Зноў дрыстаць будзеш!

Крама

Вось каб былі ў нас фішкі з пакемонамі, можна было б разабрацца з гэтымі тэлепузамі!..

Стоп! Дык я ж маю фішку зь Пікачу! Пікачу нам дапаможа перамагчы тэлепузікаў!

Адбыўся цуд. Пад уплывам трансцэдэнтных сілаў зь фішкі выдзеліўся пакемон.

## Дзея 2. Перамога

Я — Пікачу! Я дапамагу вам пазбавіцца ад тэлепузікаў!

Трымайцеся, праклятыя водпрыскі Самсунгу і Эл-Джы! Я пастаўлю крывавую кропку ў вашым жыцьці! Вы ня будзеце гвалтаваць нашых дзяцей!

Сьцеражыся, Пікачу! Ззаду!

О, не, Пікачушка, не-е-е!!!

У выніку брутальнага нападу тэлепузіка, Пікачу быў літаральна ператвораны ў дранік. Бітва была прайграная, але што далей? Як перамагчы таталітарны рэжым тэлепузікаў-людаедаў?

Я ведаю, як выратаваць нашага Збавіцеля-Пікачу! Трэба зрабіць зь мяне пакемон-крэм і скарміць яму. Тады ў нас ёсьць шанцы адолець тэлепузікаўскую навалу! Павер мне! За справу, Калян!!!

У выніку з Алісы было прыгатаванае адмысловае рэчыва, дзякуючы якому для пакемона Пікачу было выраблена лякарства. Пікачу хутка прыйшоў у форму. Незабаве ўсе тэлепузікі-людаеды былі зьнішчаныя на плянэце. Пад час вайны Пікачу ператварыўся ў самага магутнага монстра на Зямлі.

Тым часам Коля Герасімаў сумаваў па заўчаснай сьмерці Алісы, да якой ён меў зусім не плятанічныя жаданьні.

А-а, жабу, хочаш, Коля

Пікачу зразумеў, што напружвае Каляна Герасімава. Пару электрычных разрадаў — і перад Коляй зьявіліся дзесяць... Не! Дваццаць Аліс Селязьнёвых!..

—Ы-ы! Гаўняны комікс, скажы, Батхэд!
—Да-а. Навінкі — поўны адстой, баклан. Э-э-э, урубай целек, Біві

REMEMBER IN HUCK WE TRUST

Файл Правка Вид Избранное Сервис Справка

Адсюль яшчэ нікто ня ўходзіў

Назад Вперед Остановить Домой

Адрес C:\windows_must.die\shud_lock.dll

УВАГА!!!
Ніжэй разьмешчаны тэкст прыведзены тут толькі як інфармацыйны факт!!! За дзеяньні, якія могуць мець месца ў выпадку выкарыстаньня прыведзенай інфармацыі і кваліфікуюцца Крымінальным кодэксам РБ як злачынства, рэдакцыя адказнасьці не нясе!

Так Не

**Аплата за электраэнэргію** – гэта заўсёды вельмі балюча. Ну не пашанцавала нам з кліматам, што зрабіць? Ацяпляльны сэзон заўжды прыходзіць з апазьненьнем, а летам, як на злосьць вырубаюць гарачую ваду і кіпяцільнікі зноў крадуць нашыя грошы. Як выжыць у гэтым сьвеце, і не эканоміць на электраэнэргіі для кампутара? А можна!

Тыповы для беларускае рэчаіснасьць лічыльнік на электраэнэргію, мае чатыры клемы. Гэта клемы 1, 2, 3, 4. Паміж клемамі 1 і 2 уключана абмотка, якая мае малое супраціўленьне і зробленая зь некалькіх віткоў тоўстага дроту. Клемы 3 і 4 проста замкнутыя паміж сабой. Паміж клемамі 1 і 3(4) уключана абмотка зь вялікай напругай і з вялізнай колькасьцю тонкага дроту. Абмоткі сілкуюць магнітадроты, магнітнае поле каторых прыводзіць у рух дыск вымяральнага мэханізму. Затрымаць гэты лічыльнік можна, выкарыстаўшы гэтак званы "абхадны" шлях. Калі ў дзяржавы мы бярэм толькі "фазу", то "нуль" трэба вынайсьці самастойна. А дзе можна ўзяць гэты "нуль"? Ды вельмі проста. Самае прыгожае, гэта калі ў вашай хаце ёсьць тэхнічная разэтка. Такія разэткі знаходзяцца звычайна ў дамах, пабудаваных пасьля 1979 году. У гэтых разэтках ёсьць "фаза", "нуль" і зазямленьне. Менавіта гэтае зазямленьне добра замяняе "нуль". Калі ў вас няма гэтай цудоўнай разэткі, то зазямленьнем можа паслужыць і батарэі ацяпленьня. (хаця гэта самы распаўсюджаны, але досыць небясьпечны варыянт). Усё вельмі проста: мы бярэм "фазу" ў дзяржавы, а "нуль" вырабляем самі, што і дазваляе нам не плаціць за электрычнасьць. Нажаль, калі ваш электрык быў цьвярозы, і на клему 1 у лічыльніку падаў "фазу", а на клему 3 "нуль" (выхад клемы 2 і 4), то фокус не атрымаецца. Таму пераходзім да пляну "Б". Здымаем з лічыльніка плёмбу. Яна плястыкавая, і таму калі моцна і рэзка пацягнуць, здымецца як па маслу. Пасьля гэтага, на клему 3 ставім "фазу", а на клему 1 "нуль". Потым вяртаем ўсё на месца, а плёмбу прыціскаем пласкагубцамі, падклаўшы пад іх губку, і плоскія кавалкі жалеза. Амінь. Лічыльнік мёртвы.

Праўда, калі раптам прыйдзе праверка з ЖЭСу, вас чакае жопа й вялікі штраф. А раптам ня прыйдзе?

**Георгі Жукаў**

# Napster: сьветлая памяць

Як кажуць у старой як сьвет рэкляме: «Вада была бяз смаку...», пакуль мы не даведаліся пра mp3. Уявіце сабе, як было сумна да таго моманту, як аднаго прыгожага дня, малады праграмэр, зладзіў рэвалюцыю ў галіне mp3-музыкі. Ён стварыў праграму Napster, якая падчас знаходжаньня ў Інтэрнэце выкачвае любыя замоўленыя файлы mp3 з кампутараў карыстальнікаў, падлучаных у гэты момант да сусьветнага павуціньня. Пасьля гэтага доступ да музыкі ў людзей стаў амаль што неабмежаваны. Слухачы могуць свабодна абменьвацца mp3 і слухаць сваіх улюбёных выканаўцаў невыходзячы з хаты. І былі б, што называецца, людзі шчасьлівыя, і слухалі б сабе музыку... Але ж не! Першымі паднялі крык буржуі з Амэрыканскай Асацыяцыі Гуказапісваючай Індустрыі. Спужаліся дзядзькі з «ролексамі», што ім можа нехапіць грошаў на паліва для верталёту, і вырашылі засудзіць сэрвэр Napster.

Першымі, хто накатаў заяву на «пірата», былі такія мэтры як METALLICA і Dr. DRE, а потым да іх далучыліся расейскія ИВАНУШКИ ИНТЕРНЕШНЛ. Цікава, што згодна з паведамленьнямі Associated Press колішнія алканаўты і пафігісты METALLICA знаходзяцца на 9 месцы па продажу вырабаў (42 мільёны даляраў), і пакінулі ў «жопе» нават Брытні Спірс, якая зарабіла ўсяго нейкіх 40,5. З падачы Ларса Ульрыка, які зараз нагадвае мне звычайную марыянэтку, для якой грошы самае важнае, быў зроблены наезд, што Napster «правакуе некантраляванае (чытай дармовае) распаўсюджваньне музыкі, і тым самым ламае аўтарскія правы».

Прычым варта адзначыць, што доўгі час людзі нават ня ведалі, што за mp3 некаму трэба нешта адсьцёгваць. Толькі калі фармат mp3 пачаў выкарыстоўвацца будзённа, інстытут Fraunhofer, пачаў качаць свае правы. Тыпу «Гэй, лахі, плаціце бабло, бо гэта мы запатэнтавалі». У наступным годзе такія прад'явы чакаюць і раскручаных ужо ў Эўропе Інтэрнэт-радыё.

Napster засудзілі й прыкрылі, але ж пад гэты шумок зьявілася шмат новых праграм. Якія дзейнічаюць на такім самым узроўні. Таму не сумуй, шаноўны чытач, пакуль буржуі грызуцца, мы можам яшчэ нармалёва паслухаць дармовую музыку. Толькі вось пасьля таго, як я пабачыў гэту брыдкую кухню, дзе ідзе звычайная сварка за грошы, нешта не дае мне паверыць у праўдзівасьць рамантычнай лірыкі Kill'em all.

**Тата**

mp3 v. 1.00 www.iddk.ru
File :
Stopped total 00:00:00 current 00:00:00

## Пакемоны адпачываюць. Новы біч для падлеткаў –
# Зубраманія

ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!

ИЛИ

ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!

ИЛИ

Новыя налепкі ў стылі «Зубр» паразіла маладзёнаў сваёй непрыкрытай агалцеласьцю. Чаму могуць навучыць гэтыя «стыкерсы», якую грамадзкую пазыцыю яны выхоўваюць у маладога пакаленьня беларусаў?

Захапленьне кішэннымі пачварамі даўно ўжо прыняло глябальныя памеры: бацькі рвуць на сабе валасы, ня ведаючы, куды дзецца ад гэтай навалы. Сын дастае бацьку пастаяннымі пытаньнямі, хто з пакемонаў мацнейшы: Пікачу, ці Раічу? Адказ – Раічу, бо ён зьяўляецца больш разьвітай формай Пікачу і яго электрычны разрад ні больш-ні менш як 320.000 Вт. Карпарацыя, якая зарабіла на гэтым цацачным бізнэсе 5 мільярдаў далёка няцацачных даляраў, напладзіла папяровых і плястыкавых монстраў з дэвізам: «Зьбяры іх усіх!», падштурхоўваючы дзяцей ісьці на самыя скрайнія меры дзеля папаўненьня сваёй калекцыі.

Аднак лёс пакемонаў ужо вырашаны – зорка іх папулярнасьці заходзіць. На зьмену ім ідзе больш разьвітая форма адурэньня слабых дзіцячых галовак: налепкі арганізацыі «Зубр» з дэвізам «Время выбирать». Не сакрэт, што з агульнай колькасьці налепак, якія прыходзяць на рэгіянальную арганізацыю, у прыватных калекцыях асядае больш за палову і на сьценах гарадоў жыхары бачаць толькі меншую частку той візуальнай прапаганды, накіраванай на зьмену іх сьвядомасьці. Сапраўды, часам цяжка выбраць паміж зубрам і парсюком, бо кожны атрымаў сваё пачэснае месца ў беларускай літаратуры і няпроста вырашыць, што мае для нацыянальнай культурнай спадчыны большую каштоўнасьць: «Песьня пра Зубра» Гусоўскага ці «Ганарысты Парсюк» Крапівы. Арол і індык пад той самай шапкай: «Час выбіраць», таксама выклікаюць шмат пытаньняў: якая птушка больш адпавядае амэрыканскім (а значыць, дэмакратычным!) каштоўнасьцям: белагаловы сіп, зь дзяржаўнага герба ЗША, ці *Turkey* – нязьменны ўдзельнік сьвяточнага застольля амэрыканцаў на Дзень Дзякаваньня.

Такія няпростыя гульні ў роздумы пра экзыстэнцыяльны выбар айчыны нашмат цікавейшыя за тыя плады хворых ураеньняў, прапанаваных дзяльцамі забаўляльнага бізнэсу. Таму тыя, хто трапіў у залежнасьць ад гэтых небясьпечных забавак ідуць на скрайнія меры дзеля папаўненьня калекцыі: да самагубства яшчэ не дайшло, але быў выпадак, калі малады сацыял-дэмакрат даў прапаліць сабе руку сябрам Маладога Фронту за налепку «Рукі прэч ад нашых дзяцей». 11-гадовы краёвец пагражаючы нажом забраў у старшыні рэгіянальнай арганізацыі «Грамадзянскі Форум» рэдкую налепку «малінавы Рамонт-2001». Камэнтаваць тут асабліва няма чаго. Дастаткова адзначыць, што група незалежных дацкіх псыхолягаў правяла дасьледаваньні сярод школьнікаў з Пружан і зрабіла выснову, што такія налепкі ўздымаюць узровень дзіцячай агрэсіўнасьці і выхоўваюць нянавісьць да акаляючага сьвету і канстытуцыйнага парадку. Гэтая бяскрыўдная, на першы погляд, забава – насамрэч проста цынічны экспэрымент над дзецьмі й падлеткамі. Чым ён скончыцца – невядома, але сумны досьвед паказвае, што на зьмену адной хвалі моднага шаленства прыходзіць іншая, больш небясьпечная ●

**Карней Алексіенка**

*«И даже у видавших виды оперативников кровь застыла ў жылах»,* Частный Детектив

# Жудасная Беларусь

***Падставіць ключыцу пляча органам, чыя карма вясьці невідочны бой — сьвяты абавязак кожнага газэтчыка.** На антыкрымінальным фронце Навінкі засталбілі самы адказны ўчастак — прафіляктыку злачыннасьці. Нашыя верныя сябры ў крыжовым паходзе на урак – газэты Частный детектив, Детектив-Сенсация і іншыя мастадонты гзв. жоўтай прэсы.*

Бомж Васіль (усе прозьвішчы з этычных прычынаў зьмененыя) прадставіцца на божы суд. Пацярпеў на глебе п'янай разборкі з карышамі. Яны засадзілі яму нагой у таблішча, адчаго Васіль і даў дуба. Бамжы спачатку ад такога эксцэсу сканфузіліся. Потым іхны галоўны аўтарытэт кажа: «Канешна, дарма мы Васілю арганізм сапсавалі, аднак нашто тушцы прападаць». Васілёвы мошчы дэлікатна расчлянілі, кумпяк ляжкі пасмажылі і ўгаварылі пад «Крыжачок». Вось што распавёў журналіст Частного Детектива ў артыкуле «Людаеды». Выпадак — не глябальнага маштабу. Паложым, візыт папы ва Ўкраіну куды глябальней. Там і барацьба за кананічную айкумэну і сутыкненьне цывілізацыяў і ўсё такое маштабна-глябальнае. Аднак і ў выпадку з Васем ёсьць свая разынка. Толькі за гэты год згодна жоўтым выданьням у вычварэнскіх муках аддала душу 76 чалавек. Пры гэтым у Беларусі штотыднёвы наклад калякрымінальных выданьняў (*Частный Детектив, Криминальная газета, Детектив-Сенсация*) болей 57 000 экз. Чаму грамадзяне, як Васіль, чытаюць прэсу, а потым дазваляюць вакзальным шэльмам рабіць зь сябе фрыкасэ?

Набываць *Детективную газету* на перагоне Менск–Ворша трэба ня хохмы дзеля, а каб матаць на ізьвіліну ўжымкі айчыннага Джэка-Патрашыцеля. Ня здольны думаць — чытай *Навінкі.* Тут мы пачынам рэгулярную рубрыку «Анатомія злачынства па-беларуску». На аснове матэрыялаў жоўтай прэсы паспрабуем вывесьці алгарытмы злачынства па-беларуску. Спадзяемся стаць вашым віртуальным газавым балончыкам, чые пырскі дапамогуць вам дасягнуць хаты жывым і здаровым. Наш першы выпуск прысьвечаны прыладам злачынства.

Які толькі асарытымэнт не пускае беларус у справу, каб укакошыць беларуса: шлянг з упаенай гайкай, прас, табурэтка, прыклад дубальтоўкі, дзеравяшка ад плоту, бляшанае эмаляванае вядро і нават чаранок лапаты. Апошні выпадак апісаны ў газэце *Детектив-Сенсация* ў красавіку. Злачынца ўтрамбаваў дзеравяшку ў задні анус жонкі. Німфа стала ў непрыстойную позу, каб па зьдзеквацца з мужавай імпатэнцыі, і натуральна абудзіла ў свайго супруга нізьменныя інстынкты. Дзеравяшка ў жопе яе падкасіла: баба памерла ад разрыву прамой і сьляпой кішкі. Такая вось анамалія. Пройдзем далей па экспазыцыі інструмэнтаў злачынства. Тут знайшлося месца нават звычайнаму сэрванту (выпадак апісаны ў апавяданьні «Сукі»). Дуэт падонкаў, які бамбардзіраваў багатыя кватэры, выкарыстаў яго для забойства адной барыгі. Субчыкі засунулі галаву кліенткі ў праём раскладной канапы і скакалі на ім так, што «аж косьці захрусьцелі». Аднак абсалютны хэдлайнэр па папулярнасьці ў сьпісе інструмэнтаў беларускага злачынства займае сякера й кухонны нож. Нож – спадарожнік урбаністычнага крымінальнага пэйзажу. На старонках жоўтай прэсы 65% злачынстваў адбываюцца пры дапамозе нажа. Сякера – верны спадарожнік злачынцаў сельскай мясцовасьці. Ад удару сякеры паміpae 75 адстоткаў ахвяраў у правінцыі. Самае жудаснае, што сякера і нож маюць магнэтычны ўплыў на нармальных людзей. Пабачыўшы іх ва ўзбуджаным стане, у беларусаў адразу чэшуцца рукі кагосьці замачыць і сесьці па арт.100 УК (наўмыснае забойства).

Вось кадар — стары паляшук Тарас, герой эсэ «Паляшук» (*Детективная газета*, №143). Ягоныя дзеці мігравалі ў горад, дзе, прабачце за зьбіты афарызм, стартанулі закладаць па-чорнаму. Вясной правінцыял запрашае сына і дачку дапамагчы саджаць бульбу. Прыехалі. Першай справай выжралі самагонны НЗ і пачалі пад мухай кідаць палкі, дарма што дачка страхалюдзіна. Наш Тарас, пабачыўшы гэты энтузыязм плоці, чамусьці адразу прыгадаў пра сякеру. Яго кусае нейкая муха і падчас кулінгу прыпячатвае дзяцей алебардай.

Ну, добра, гэтыя правінцыялы – адсталы няўзвышаны элемэнт. Аднак, прыкладна тое ж самае адбываецца ў «сіці». Гэтак, у эсэ «Вырадак» ахвяра – 12-гадовая дзяўчынка – сама прынесла хлебарэз п'яному суседу, каб той затачыў ёй алоўкі.



***Твар крыважэрнай пачвары мае сёньня наша «сінявокая» Беларусь. Чатыры трупы зь пяці – ахвяры забойстваў на бытавой глебе.***

Празь некалькі хвілінаў яна ляжала ўжо згвалчаная, а дзядзенька праварочваў у ёй яшчэ цёпленькай разьбу. Нейкі пацак Дузін з навэлы «Садыст» на глебе зайздрасьці самаробным нажом выпатрашыў усю сям'ю сваіх суродзічаў. Пад кадык вымагацелю Журавіну засадзіў батанік-навучэнец ПТВ фінку-самапал (эсэ «Пэтэушнікі»).

Такім чынам, лепш з нажамі не забаўляйцеся. Кінжалы схавайце або паспрабуйце трымацца падалей ад кухні, бо кухонныя цесакі пакідаюць найбольш глыбокія і рваныя раны. Калі псаваць цялесную абалонку, то кішэнным або манікюрным ножыкам. Можа справа і ня дойдзе да макрухі●

**Якуб Патрашыцель**

## «Бацька ня сьпіць, але прасіў не непакоіць»


















# Трэба думаць галавой, перш чым пісаць!



*Каб падвысіць касавыя зборы, арганізатары «Обезьяньего шоу» пайшлі на подкуп журналіста газэты* Навінкі *з мэтай дэскрэдытацыі бліжэйшых канкурэнтаў. Вядома ж, шоў-бізнэс – гэта вам ня фаір-плэй.*

Пасьля выхаду апошняга нумару *Навінак* нашу рэдакцыю літаральна штурмам брали разьюшаныя дзяўчынкі, не было адбою ад гнеўных тэлефанаваньняў. Прычынай такому нечаканаму ўсплеску эмоцыяў паслужыў матэрыял «Прысмак крыві» (*Навінкі*, №7, 2001), героем якога стаў знакаміты сьпявак А.Саладуха. Неўзабаве скандал выплеснуўся на ТБ і старонкі афіцыйнай прэсы. Не застаўся ў баку й сам Саладуха, які вельмі блізка прыняў да сэрца факты, прыведзеныя ў артыкуле.

**«Саша находился на гастролях, когда ему принесли газету. Это случилось перед выходом на сцену в городе Лида. Он был просто смятен. Работая на сцене, он трижды пытался уйтм и прекратить концерт: ему тяжело было выступать. Он видел, как превосходно воспринимала его публика – а на его концертах были аншлаги, но не мог ответить адекватной отдачей. Он был подавлен, буквально убит этой статьёй. Он даже стал высказывать сомнения, что сделал правильный выбор, вернувшись к себе на родину, в Беларусь. Ведь до этого он три года находился в Москве. На следующий день в Гродно он тоже не мог заставить себя выйти на сцену».** («Почем «утки»? газетные...» Паліна Юр'ева, *Знамя Юности* за 2 чэрвеня 2001).

Вельмі катэгарычна выказаўся наконт «Прысмаку...» прад'юсэр Саладухі А.Сьвірыдаў: **«Я считаю, что статья в *Навінках* – это не просто газетная утка, это явно заказной материал»**.

Вядома ж, мы не маглі застацца ў баку, калі нашу газэту адкрыта абвінавачваюць у тым, што мы нібыта займаемся пусканьнем «уток» ці разьмяшчаем неправераную інфармацыю, і вырашылі самастойна разабраць усе аспэкты справы. Вынікі ўнутрырэдакцыйнага расьследаваньня паверглі нас у шок. Зьвязаўшыся па тэлефоне з А.Троіцкім, мы сапраўды высьветлілі, што ён не пісаў гэтага артыкулу. Спачатку расьследаваньне пайшло па няправільным сьледзе: першапачатковая рабочая вэрсія – Саладуху хацелі падставіць канкурэнты Ціхановіч або Ухцінскі. Аднак пасьля таго, як уборшчыца цёця Таня выпадкова знайшла ў сьметніцы паперку, якая аказалася расьпіскай на атрыманьне грошай, усё стала на свае месцы. Дакумэнт гаворыць сам за сябе:

*«Я, Ларыса Грыбалёва, атрымала ад арганізатара «Обезьяньего шоу» Чынгіза Дарвіна суму ў 38 (трыццаць восем) даляраў ЗША і бутэльку гарэлкі. Абавязуюся разьмесьціць артыкул у адной з цэнтральных газэт, які кампрамэтуе А.Саладуху, з мэтай сарваць ягонае турнэ па Беларусі, што дазволіць павялічыць касавыя зборы ад гастроляў «Обезьяньего шоу». Дата. Подпіс.»*

Такога ад старой знаёмай мы й чакаць не маглі. Ратуючы сваю працоўную рэпутацыю, мы сьпяшаемся прынесьці свае прабачэньні сьпеваку А.Саладуху. Творчых Вам посьпехаў, Саша! ●

**Ігар Круты**

# Басовішча

**Ужо менш за 20 дзён застаецца да чарговага выезду ўсёй прагрэсіўнай беларускай тусоўкі ва ўрочышча Басовішча, што пад Гродэкам (Беластоцкае ваяводзтва). Раз на год яно ператвараецца ў буйнейшы цэнтар беларускага музычнага мастацтва. А з чым асацыюецца ў тамтэйшых «тутэйшых» гэтак званы «беларускі Вудсток»? З гэтым пытаньнем мы й зьвярнуліся на вуліцах мястэчка да простых басавішчанаў.**

**Юзік, лясьнік пана Радзівіла:**
От, курва маць. Зноўку панаедуць влосатыя пердаленцы. Засруць усю палянку рванымі гандонамі і струнамі. Я юж не муве пра жывёльны сьвет. Год тэму выпісалі з Гамбурскага заапарку барсучка ў лес. Дык ён ад музыкі гурта ЗЬНІЧ упаў у каматозападобную дэпрэсію і ускрыў сабе вены. Пайду настаўлю капканаў і расьцяжкі, а як Пан Бог дасьць, спаймаю жывым іхняга глуўнага – Супрановіча – пасаджу дупай у мурашнік!

**Мясцовы панк Гыдрант (зэспул ТЭЖ ЗЭТ, Гайнуфка):**
От, дупа паебана! Шосты рок езьдзяць да нас розныя НРМ ды НРМ граць свой рок. Жэбы я так жыў, як мне хцэцца зь імім зноў нажырацца. Прывязуць зноў сваю левую беспантовую сьветлагорскую канапелю, а ў мяне бэндоў стшэляць галяндзкія джойнты! Каб хоць раз прыехаў Ціхановіч – вось бы з кім шырнулся!

**Ваявода беластоцкага ваяводзтва пан Збышак Каруззльскі:**
То бэндзе сьвента польска-беларускага сяброўства. Музыкі – гэта прасланцы звышнатуральнага сьвету, а іх мастацтва – знак патойбаковых сіл, «прамежнае крулества» паміж сьветам і боскім адзінствам, супадзеньне рэлігійнага і эстэтычнага дасьвядчэньня. Задача тутэйшай адміністрацыі – дапамагчы як мага венкшай ілесьці слухачоў абудзіць падсьвядомыя перажываньні асобы. Не сакрэт, што сучаснае мастацтва чэнста адлюстроўвае факт духоўнага вырадзэньня спулчэснай буржуазіі, але Басовішча адкрые нам новыя імёны, якія вывядуць спалэчнасьць з духоўнага тупіка.



Штогод рокфэст «Басовішча» з конкурсу беларускай аўтарскай песьні даўно ператварыўся ў п'яную панкаўскую вакханалію з сэксуальнымі вычварамі.

**Болек і Лёлек (сьпіртавозы-кантрабандысты):**
Пшепрашам! Мы падрыхтаваліся лепей, чым у зэшлым року. Завезьлі фуру «Выбаровай» і дзьве – пладовага віна «Алабама», а таксама кантрабанднага эцілавага сьпірытусу. З шчэгульным захапленьнем чэкамы прыбыцьця нашых сталых кліентаў з зэспулу СОНЦА МАО і Баршча з ПОСТСКРЫПТУМ.

**Экіпаж пагранічнага танка і сабака:**
У мінулае лета велька экіпа гардзенскіх панкаў імкнулася перасекчы мяжу пад выглёндам статку дзікіх сьвіней, бо ім было ў лом купіць ваўчар і паехаць як людзі. Поўныя дэвіянты. Зь нецерплівосьцю чэкамы, кеды бэндзе уведзены рэжым візовы і мы атшымамы новае абсталяваньне ад нашых натаўскіх хаўрусьнікаў, тады ніводная сьвіньня не пшэйдзе!

**Біскуп Хрызастом Хілы:**
Гарэць усім гэтым вычварэнцам у геене вогненай! Наш косьцюл Марыі Магдалены разам з праваслаўнымі і эвангелістамі праводзіць пад гукі палянэзу Агінскага і эцюдаў Шапэна экумэнічны хросны ход вакол месца правядзеньня фэсту, жэбы выклікаць кармы нябесныя на гэтыя музычныя садом і гамору. Бэндземы лавіць і крапіць гвалтоўна сьвентай водай. Пшэз Хрыстуса, Пана нашэга.

## Куток канцэптуальнага графамана

### Яйкі папяровага жураўліка з водарам кавы.



Хворай на лейкемію японскай дзяўчынцы сказалі, што яна выздаравее, калі зробіць тысячу папяровых жураўлікаў. Колькі часопісаў, газэт і іншых папяровых выданьняў павінна зьявіцца ў Беларусі, каб вылечыць нашыя хранічныя духоўны СНІД і інтэлектуальны сыфіліс? Невядома... *Архэ* і *Наша Ніва*, безумоўна, у разьлік не прымаюцца, бо гэта зьявы хутчэй паталягічнага, чым тэрапэўтычнага характару. Але нейкія зрухі ўсё ж адбываюцца – вось 23 мая адбылася прэзэнтацыя новага «філязофска-літаратурнага» часопісу *Паміж*, выдадзенага навучэнцамі Беларускага Калегіюму. І хаця героі матэрыялаў часопісу, напрыклад, Жан Бадрыяр, настолькі ж містычныя і мітычныя для паспалітага чытача, як і Адам Клакоцкі (фантастычны пэрсанаж, імя якога прысвоілі друкарні, у якой нібыта быў надрукаваны часопіс), вокладка ды й зьмест некаторых артыкулаў пакідаюць уражаньне самае аптымістычнае.

Падчас прэзэнтацыі аўтары часопісу прадэманстравалі веданьне сучаснай культурнай сытуацыі ў РБ: быў, напрыклад, прыцягнуты да адказнасьці эмаліраваны тазік, у якім сырыя курыныя яйкі былі перамяшаныя з таннай молатай кавай, што выклікала абурэньне ў прысутнага там нязьменнага ўдзельніка сьвецкіх пасядзелак Славаміра Адамовіча. Той, відаць, прыгадаў сваю беспасьпяховую спробу паўтарыць пэрфоманс Зьміцера Вішнёва, які надкусіў каля ста курыных яек, выклікаўшы блявоту ў больш за трыста чатырнаццаці наведнікаў заапарку «Сучаснае мастацтва». Так што, трэба дома бываць часьцей, шаноўны Славамір, пранікацца разуменьнем паміжнай сытуацыі нашай Радзімы і ня блытаць Божы Дар зь яешняй ●

**Тута Карлсан**

### Новае слова ў Стратэгіі Адмаўленьня.




Калі тыя, хто жадае закасіць ад войска, пільна гартаюць падручнікі па псыхапаталёгіі, каб знайсьці сабе хваробу згодна са сваім густам і магчымасьцямі, вайсковыя псыхолягі не марнуюць час на падобную лухту: правілы гульні зьмяніліся і зараз выйшаў загад браць у войска ня толькі лунатыкаў, але й дзэн-будыстаў (бо добра падстрыжаныя). Але зьявілася нешта такое, ад чаго заварушацца валасы на патыліцы ў самых загартаваных вайсковых псыхіятараў: выйшла ў сьвет кніга славутага беларускага спэцыяліста па вялацякучай дзэнафрэніі Ігара Бабкова «Адам Клакоцкі і ягоныя цені». Прачытайце яе абавязкова, бо варта выдаць штосьці зь яе зьместу на мэдкамісіі – вас неадкладна камісуюць. Вось, напрыклад, вас папросяць распавесьці свой жыцьцярыс, а вы на гэта:

*...Пра сябе: ён жыў у едкім і цягучым вымярэньні нязгаснага болю: пісаў доўгія, як восень, дзэн-сказы, што цёплаю хваляй пакатваліся па сэрцы, спакушалі нядвойчасьцю й узьяднаньнем, казалі як быццам нічога і ўсё ж замнога ды ўрэшце пакідалі там, дзе ты ёсьць: сярод нязбытнага фарсу, у каморы, на Сьвятой Зямлі.*

На пазасталыя пытаньні адказвайце тым жа манерам:

*...Я сядзеў і чакаў шостага Патрыярха аднаго са шматлікіх адгалінкаваньняў школы чан Віктараса М. субмарына варушылася сярод водарасьцяў. Стыла кава. І якраз у гэты момант увайшла здань самотнага манаграфіста Фінегана Зялёнага. Ейныя рухі былі дакладныя, вочы бліщчэлі. Сьвет разьлягаўся перад ёй у няпэўную колькасьць аб'ектаў, якія зь неабходнасьцю пераўтвараліся ў прадметы досьведу.*

Але ўвага! Ня варта надта захпляцца чытаньнем, бо навошта ж вам шпіталізацыя?! ●

**Дэйл Карнэгі**

# Не Наш Дэкамярон

## *28 іюня у Доме Афіцэраў састаяўся сэканд-хэнд Ціатра Рамана Вікцюка “Наш Дэкамярон XXI”*




«Іскуства не прынадляжыт народу. Іскуства не прынадляжыт нікаму.» – так гаварыў Р.Р.Вікцюк

Рэжысёр-пастаноўшчык Раман Рыгоравіч Вікцюк, аснавацель ціатра імяні сібя, – бясспорна (хаця і не без порна) эксцэнтрык. Ізначальна шчытаўся скандальна-эпатажным («M.Butterfly», «Служанкі», «Рагатка»), ныне скарэй стабільна-успешэн («Мастер і Маргарíта», «Эдзіт Піаф», «Механічыскій Апяльсін»). Уверын, што іскуства апрыдьзяляе жызьнь, а не наабарот. У падборке інтэр’ўеў із Підарнэта (www.gay.ru) Вікцюк у аснаўном расказывае а сібе, што перадвігаецца он ісключыцельна у абшчэственам транспарце бяз праязнова дакумента, умеет бясплатна званіць па мяждугароднім аўтаматам, а такжэ можэт прайці ў любой ціатр міра на халяву (хе-хе, каво эта он мне напамінае?) А яшчо яво очынь сільна валнуе вапрос праціваcтаянія дабра і зла. І дажэ можыт сказаць, у чом смысл жызьні, пажалуста: нада жыць любоўю. Праблема толька ў том, што структуры любві і гасударства несаўмясьцімы.

Абітацелі г-г Мінска, не ізбалованыя ні скандальнымі, ні проста дабракачыственымі шоў, зал іспраўна наполнілі і па-аканчаніі апладзіравалі стоя. Праісхадзіўшае жэ на сцэне – історыя ў меру дрянной, а большэ невязучай дзяўчонкі - напамінала не ціатр, а... самый настаяшчый цырк! Акрабаціка вярхом на звязьдзе (трохмерный каркас із красных жылезных палак), жангліраваніе ісключыцельна штампамі, клаўнада разгаворнага жанра бяз цені сьцясьненія ў выражэніях на фоне картонна-гуашывавай галереі генсекаў і Пасledняга... в обшчым, усё ўплоць да абез’яннега шоў у маленькам астраўном гасударстве.

Па мненію экс-МХАТаўкі і мувістара Апексімавай, іспалніцельніцы глаўнай ролі і па саўмясьціцяльству - прадзюсара (замячацельнай прафесіаналкі, как і астальныя члены пастановачнай каманды), Эдвард Радьзінскій – ядзінственный із нынешніх драматургаў, умеюшчых пісаць для жэншчын. То есьць дастойна нясьці пафас вечнай ідзеі «усе мужыкі казлы». Сам аўтар п’есы, праўда, не разьдзяляў васторгаў па поваду рымэйка праекта 12-летней даўнасьці («Наш Дэкамярон», сінхронный с тадароўскай «Інтэрдзевачкай», з бешаным усьпехам шоў у 89-м, кагда саўкі і саўчыхі толька начыналі празрэваць, а к 90-му цему ўжэ сьмела можна была закрыць) і дажэ на прэм’еру ў ціатр ім. Вахтангава 18 марта сяго года не явіўся. Рэжысёр, у сваю очырэдзь, палагаў, што сьпектакль будзе абрычон на усьпех: зрыцель благасклонен к прэдсказуемасьці, а есьлі сюжэт не саўсем актуален, дык зато он цяпер экзістанцыален і ў ём ужасы ярчэ відны!

Эта точна, цырк палучыўся с элементамі кашмара. Што вытвараў клоўн у Сьцівена Кінга, помніце? Вот прымерна ў таком сьвеце відзіцца гераіня-прасьцітутка Радьзінскаму і Вікцюку. Нарачыта вульгарная, хітрая і мсьціцельная сьцерва. С адной стараны, уродзе і непрыятна, как будта ў зеркала с бадуна засматрэўся, а с другой... Пошласьць, ана ведзь парой та-ак завараживает... Недарам гаварат, што пры рашэніі абшчэчылавечыскіх вапросаў аналіцічыскій падход неўмесьцен. Бакаччаўская чума ўсё гусьцеет і клубіцца; даёш зрэлішча+эмоцыі!

Г-н Вікцюк абяшчал 23 іюля вярнуцца с “Суламіфью”. Прывязіце мне лучшэ хто-нібудзь ЧорнаеНЕБАбелае! І вабшчэ - абідна, блін: вечна ўсё аткуда-та нада вязьці...

Helas, mon Soleil de Miel...

**Міма Прахадзімец,**
ціатральны крыцік

# Булава Гетмана
## (інтэрактыўная аповесьць)

*Кароткі зьмест папярэдніх частак. (Пачатак аповесьці глядзі ў №3-7, 2001)*

*1600 год ад нараджэньня Хрыстова. Падчас сяброўскага візыту ў ВКЛ у запароскага гетмана Галапупенкі пры загадкавых абставінах зьнікае булава – сымбаль вярхоўнай улады. Копны судзьдзя ў адстаўцы Андрэй Ст’анкевіч і яго сябар, палкоўнік Сьліва, бяруцца знайсьці зьніклы рарытэт. Сябрам трапляе ў рукі манускрыпт з жудаснай старажытнай легендай, якая пралівае сьвятло на загадкавае здарэньне. Па дарозе сябры заяжджаюць у прыдарожную карчму «Адрыжка вясёлага манаха», дзе іх чакаюць новыя*

**LXIF.**

Карчма «Адрыжка вясёлага манаха» выглядала знутры яшчэ больш змрочна, чым звонку. Калі паны-дэтэктывы пераступілі парог, іх з усіх бакоў ахінула густая і чорная, нібы кроў ведзьмы, цемра. Ва ўсім доме панавала тая цішыня, што пануе на могілках пры поўным Месяцы.

– Эгэй! Нешта я не разумею, дзядзька, ці мы ў карчме, ці ў склепе? – рука палкоўніка Сьлівы міжволі пацягнулася да эфэсу шаблі.

Раптам громка рыпнула палавіца, і на сяброў кінулася нейкая чорная здань. Ст’анкевіч і Сьліва ад нечаканасьці адскочылі назад і ў той жа момант выхапілі зброю.

– Не хвалюйцеся, шаноўныя паны, я такой жа падарожнік, як і вы, і вось ужо колькі часу спрабую ў гэтай цемры знайсьці гаспадара карчмы.

Палкоўнік чыркануў крэсалам, і запалены трут асьвяціў постаць маладога чалавека ў вайсковай форме.

– Дазвольце адрэкамэндавацца: падхарунжы другой штурмавой кагорты Шостага Судэцкага палку ўлан-гарналыжнікаў Яго Каралеўскай Вялікасьці Вальдэмар Бадзяга. У цяперашні момант выкарыстоўваю свой водпуск па службе для пошукаў чашы Грааля*.

– Вельмі пахвальная справа для сапраўднага рыцара, – пан Андрэй схаваў свой палаш у ножны, – але мне здаецца, што зараз больш актуальнымі зьяўляюцца пошукі адміністратара гэтай пячоры.

– У нас не пячора, а добрапрыстойная ўстанова, – раптам аднекуль з глыбіні дому прагучаў нізкі жаночы голас, і ў той жа момант нібы сам сабой запаліўся агонь у каміне. Падарожнікі аглядзеліся: яны стаялі пасярод вялікай залі, якая і зьяўлялася, па сутнасьці, памяшканьнем для трапезы. У залі стаяла некалькі скасавураных дубовых сталоў, да якіх прытуліліся каравыя лаўкі. У дальнім канцы залі ля каміна стаяла маладая жанчына ў чорнай сукенцы, чорнай спадніцы, з чорнай хусьцінкай на шыі.

– Добры вечар, паны падарожнікі. Мяне клічуць Гражына, і я зьяўляюся гаспадыняй гэтай карчмы. Распалагайцеся, адчувайце сябе, як дома. Прабачце за не зусім ветлівы прыём, але прашу зразумець – у мяне гора: толькі ўчора памёр мой муж. І зараз ён яшчэ тут, з намі.

Жанчына зрабіла рукой жэст у бок задніх пакояў і пасунулася трохі наперад так, што ў промнях полымя каміну стаў бачны ейны твар.

*Чаша Грааля – чарадзейны Хрыстовы келіх, які, адпаведна старажытнай рыцарскай байцы, ператварае ваду ў віно. У сярэднявеччы ў асяродзьдзі дэклясаванага рыцарства лічылася модным апраўдваць збор пустой тары пошукамі славутай чашы. У цяперашні час «Чаша Грааля» – назва папулярнага пладова-ягаднага віна Калінкавіцкага лікёра-гарэлачнага заводу.

6

# *Мумії сусьлікаў: подых сьмерці*

Безумоўна, гэты альбом двух сталпоў айчыннага авангарду заслугоўвае самай прыстальнай увагі. Увагу прыцягвае ўжо той факт, што назва работы канцэптуальна пераклікаецца зь любімым фільмам усіх беларускіх прызыўнікоў – «ДМБ». (Узгадваецца знакамітае гамлетаўскае пытаньне «Бачыш сусьліка?.. А ён ёсьць!») Хаця на гэтым усё падабенства з мажорным кіно і заканчваецца, усё раўно прыемна, што маладыя авангардысты не забываюць клясыку.

Цяпер пра музыку. (Калі тое, што яны вытвараюць, можна назваць музыкай). Па ўсім відаць, Вішнёву ў гэтай працы прыйшлося нялёгка. Па гуках, якія даносяцца з магнітафоннай стужкі, можна зрабіць выснову, што Бубен прывязаў паэта да стула і на працягу дзьвюх-трох гадзінаў прымусіў слухаць уласныя опусы. Калі Зьміцера пачало канкрэтна каўбасіць, садыст-гукаапэратар урубіў «запіс».

Апошнія хвіліны Вішнёва цяжка слухаць без стакана (або нават двух). Мяркуючы па акустыцы, зьдзекі зь Вішнёва праходзілі ў вялікім памяшканьні тыпу ангару або гаражу. Спачатку непрытомны, паэт паступова прыходзіць у сябя і пад д’ябальскія гукі аглашае прастору сваімі стогнамі і цытатамі зь любімых твораў Куляшова, Шамякіна й іншых клясыкаў савецкай літаратуры. Але дарма – ніхто ня чуе апошняга трызьненьня маладога паэта. Сорак хвілінаў перадсьмяротных усхліпаў і рыданьняў пакідаюць незабыўны сьлед у душы слухача.

Лёс ахвяры застаецца нявысьветленай, бо ніхто са знаёмых яшчэ ня здолеў даслухаць альбом да канца. Але наўрад ці пасьля такога можна выжыць. Улічваючы злавесную назву, можна думаць што мумія Вішнёва-сусьліка даўно ўпрыгожвае студыю Бубена ў якасьці маўклівага дакору іншым нахабным маладым паэтам ●

**Ільля Паціпусін**

Культурнае рэвю ад Г&С

